ЗАХОДНЕБЕЛАРУСКАЯ ГРАМАДЗКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА ЗАСНАВАНА Ў 1920 г.

# ПАГОНЯ

№ 22 (121) 9 - 15 чэрвеня 1995 г. Кошт 500 рублёў

ВЕРУ Ў СЬВЕТЛУЮ ЗОРКУ БЕЛАРУСІ - ст. 2.

ТОРЖЫШЧА - АДЗІНАЯ КРЫНІЦА ПРЫБЫТКУ - ст. 3.

ФЕСТЫВАЛЬ ПАД БЕЛ-ЧЫРВОНА-БЕЛЫМ СЬЦЯГАМ - ст. 8.

ПРАГРАМА ТЭЛЕБАЧАНЬНЯ НА ТЫДЗЕНЬ: Менск – Варшава – Масква - Санкт-Пецярбург.

## НА ВАЙСКОВЫМ ВЕРТАЛЁЦЕ Ў КАЛГАС

**У мінулую суботу прэзідэнт Лукашэнка ледзьве не інкогніта наведаў Гарадзеншчыну...**

Год назад Лукашэнка двойчы наведваўся ў Горадню. Усё агітаваў за сябе: "Зрабіце мяне прэзідэнтам, і я вам райскае жыцьцё ўчыню". Слухалі яго гарадзенцы і ўяўлялі, як Нёман ператвараецца ў малочную раку з кісельнымі берагамі. Але ўсе лукашэнкаўскія словы абярнуліся абяцанкамі-цацанкамі.

Тады ён да нас езьдзіў таму, што за Магілёўшчыну быў спакойны, а ў Горадні адчуваў сябе чужаніцай. Гэта пацьвердзіў і ягоны прыезд 13 сьнежня 1994 г., калі гарадзенцы сустрэлі яго плакатамі і выгукамі, карацей - непрыхільна. Не спадабаўся такі прыём Лукашэнку, вось чаму свой наступны візіт ён кожны раз адкладваў. Ажно, нарэшце, заявіўся на вайсковым верталёце, наведаў тры калгасы і зьнік, а ў Горадні так і не паказаўся. Баіцца ён, ці што? Ці такі заняты? Абяцаўся, праўда, у ліпені прыехаць і да нас. Каб толькі зноў не зманіў. Ужо будзе тады нагода спаткаць яго "хлебам-сольлю". Горадня, як вядома, завапіла і лукашэнкаўскі рэферэндум, і выбары. А гэта пра нешта ды сьведчыць.

П.КАСЬПЯРОВІЧ.

## ГОСЬЦІ З МІНДЭНА

**Сёмага чэрвеня ў Горадню з афіцыйным візітам прыбыла дэлегацыя з нямецкага горада-пабраціма Міндэн.**

Узначальвае дэлегацыю бургамістр горада Зыхфрыд Флайснер. Разам з ім у Горадню прыехалі мастак Ханс Йохан Фраймут і дырэктар гарадзкога тэатру горада Міндэн Бэртрам Шультэ ды іншыя афіцыйныя асобы.

На працягу пяці дзён госьці з Нямеччыны будуць вывучаць персьпектывы супрацоўніцтва паміж бізнэсмэнамі, мастацкімі і спартовымі калектывамі двух гарадоў.

## ГОРАДНЮ НАВЕДАЎ ГЕНЕРАЛЬНЫ КОНСУЛ РАСЕЙСКАЙ ФЕДЭРАЦЫІ

**У Гарадзенскім аблвыканкаме адбылася прэс-канферэнцыя генеральнага консула Расейскай Федэрацыі А.М. Корсуна.**

Падчас прэс-канферэнцыі спадар консул расказаў прысутным аб галоўнай мэце сваёй працы. У прыватнасьці, гэта дыпламатычныя захады для вырашэньня разнастайных непаразуменьняў між грамадзянамі Расеі і службамі ахоўы мяжы, дапамога жадаючым атрымаць расейскае грамадзянства. Акрамя таго, консул будзе умацоўваць эканамічныя і культурныя сувязі дзьвух заходніх вабласьцей Беларусі з расейскімі рэгіёнамі, а таксама абараняць інтарэсы грамадзян Расеі, якія часова пражываюць на тэрыторыі Гарадзеншчыны і Берасьцейшчыны.

Штаб-кватэра генеральнага консульства Расейскай Федэрацыі будзе разьмешчана ў Берасьці.

Г.Д.

## ЛЕНІН БЕЗ ГАЛАВЫ

**На сьвітаньні другога чэрвеня жыхарам гарадзкога пасёлка Дзітва Лідзкага раёна падалося, што помнік сусьветнага правадыра працоўных, які на працягу дзесяцігоддзяў паказваў дзітвянам шлях у "сьветлую прышласьць", як бы памяншаў.**

Першыя промні сонца матэрыялізавалі здань. Ленін стаяў без галавы. Нарад міліцыі, які зьявіўся неўзабаве, дакладна дасьледаваў сьвежы зрэз і, параіўшыся з начальствам, сьпілаваў і тулава. Кажуць, помнік быў з алюмінію. Дык трэба чакаць, што галава з тулавам хутка сустрэнуцца дзе-небудзь у Летуве.

Шкада, што бальшавікі эканомілі нават на помніках правадыру і рабілі большасьць з іх з таннага бетону, а то просты беларускі злодзей хутчэй бы ачысьціў нашу зямлю ад балваноў, чым усе радыкалы і нацыяналісты разам узятыя.

Усяслаў ВОЙНІЧ

## ВАЛЮТА ЗА АДУКАЦЫЮ ЗАМЕЖНЫХ СТУДЭНТАЎ ПАЙШЛА НА ЗАРОБАК

Каб выплаціць у тэрмін зарплату, адміністрацыя ГрДзМі вырашыла прадаць валюту, якую інстытут атрымоўвае за навучаньне замежных студэнтаў. Рэалізаваўшы праз камерцыйны банк "зялёныя" інстытут выплаціў заробак супрацоўнікам.

Дарэчы, аклад асістэнта кафедры ў траўні склаў 447 тысяч, кандыдата навук 517 тысяч, доктара навук 570 тысяч рублёў. Да параўнаньня - год студыяў у ГрДзМі замежнаму студэнту каштуе 1700-2000 даляраў ЗША.

## «СЬВІЦЯЗЬ» АТРЫМАЎ ГРАНТ ФОНДУ СОРАСА

На адрас гістарычна-культурнага часопіса Гарадзеншчыны "СЬВІЦЯЗЬ" прыйшла тэлефанаграма, у якой паведамляецца, што Фонд Сораса выдзяліў гэтаму выданьню грант на набыцьцё выдавецкай тэхнікі.

Акрамя "СЬВІЦЯЗІ" гранты таксама атрымалі часопісы "КАЛОСЬСЕ", "ПОЛЫМЯ", "МАЛАДОСЬЦЬ" і "ПЕРШАЦЬВЕТ".

Г.А.



## ЦІЦЯНКОВУ ДАПАМОГ ВЕЦЕР?

Пракуратура рэспублікі працягвае праверку абставін зьняцьця 16-га траўня з будынку прэзідэнцкай адміністрацыі бел-чырвона-белага сьцяга. Вядома, што дзяржаўны сімвал Беларусі пасьля спуску з флагштока быў разарваны на кавалкі і раздадзены ў якасьці сувеніраў работнікам адміністрацыі. У сувязі з гэтым шэраг грамадзян Беларусі выказалі патрабаваньне, каб пракуратура рэспублікі ўзбудзіла па факту глумленьня над дзяржаўным штандарам крымінальную справу.

Падчас праверкі ўпраўляючы справамі адміністрацыі прэзідэнта І.Ціцянкоў абверг інфармацыю прэсы аб тым, што ён асабіста разарваў бел-чырвона-белы сьцяг і, распісаўшыся на разарваных кавалках, раздаў іх сваім паплечнікам.

Аднак у распараджэньне пракуратуры была перададзена відэакасета, на якой зафіксаваны момант зьняцьця сьцяга. Пасьля гэтага прэзідэнцкі "заўхоз" зьмяніў свае паказаньні.

Цяпер "заўхоз" Ціцянкоў больш не адмаўляе свайго ўдзелу ў зьняцьці бел-чырвона-белага сьцяга, як і таго, што ён распісваўся на кусках штандару.

Хутчэй за ўсё пракуратура ня ўгледзіць у гэтым факце глумленьня над дзяржаўным сімвалам. Устанавіць жа асобу, якая зьнішчыла бел-чырвона-белы штандар над рэзідэнцыяй прэзідэнта праваахоўчым ворганам пакуль што не ўдалося. Па версіі супрацоўнікаў адміністрацыі прэзідэнта гістарычны сімвал Беларусі ў момант зьняцьця быў ужо парваны ветрам. Верагодна, што пракуратуру задаволіць такі адказ.

СІМ

## КААРДЫНАЦЫЙНАЯ РАДА БЗВ

3 чэрвеня ў Менску адбылося закрытае пасяджэньне Каардынацыйнай рады Беларускага Згуртаваньня Вайскоўцаў. На радзе было разгледжана становішча ў краіне і задачы БЗВ ва ўмовах антынацыянальнай дзейнасьці кіраўніцтва дзяржавы. Акрамя таго было прынятае рашэньне пра сьвяткаваньне 585-х угодкаў Грунвальдзкай бітвы.

Кастусь АЛЬГЯРДОВІЧ

## ЧЫТАЙЦЕ І ВЫПІСВАЙЦЕ "ПАГОНЮ"

- газэту, якая паведамляе пра тое,
што больш нідзе ня будзе надрукавана.
Акрамя таго, кошт падпіскі на квартал на
- "Народную газету" складае - 39 тысяч рублёў;
- "Гродзенскую праўду" - 24 тысячы рублёў;
**а на "ПАГОНЮ" толькі 9 тысяч рублёў.**
**Падпіска заканчваецца 14 чэрвеня.**

Ф.СП-1

Міністэрства сувязі Беларусі
"Белсаюздрук"

**АБАНЭМЭНТ** на газэту 63124

"ПАГОНЯ" Колькасьць камплектаў 1

на 1995 год па месяцах:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | X | X | X | | | |

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозьвішча, ініцыялы)

**ДАСТАВАЧНАЯ КАРТКА**

ПВ | Месца | літар | на газэту 63124

"ПАГОНЯ"

Кошт: падпіскі 9000 руб.; пераадрасоўкі руб. Колькасьць камплектаў 1

на 1995 год па месяцах:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | X | X | X | | | |

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозьвішча, ініцыялы)

 







# ПАЛІТЫЧНАЯ СЦЭНА

## УКРАІНСКІЯ СЯБРЫ НА БЕЛАРУСІ

**13-19 траўня ў Беларусі знаходзілася дэлегацыя ўкраінскіх журналістаў. Паездка была арганізавана Беларускім рэспубліканскім Фондам падтрымкі дэмакратычных рэформ імя Льва Сапегі і Украінскім Фондам "Дэмакратычныя ініцыятывы" па праграме Усход-Усход з фінансавай дапамогай Беларускага Фонду Сораса і Украінскага Фонду "Відродження". У складзе дэлегацыі - 13 прадстаўнікоў дзяржаўных і незалежных сродкаў масавай інфармацыі - газет, радыё, тэлебачаньня, інфармацыйных агенстваў з Кіева і Данецка. Дарэчы, на пачатку сакавіка такая ж самая група беларускіх журналістаў наведала Украіну, а ўкраінскія калегі свой сустрэчны візіт у Менск прымеркавалі да выбараў у Вярхоўны Савет і рэспубліканскага рэферэндуму.**

На жаль, дагэтуль паміж Украінай і Беларусьсю не наладжан нармальны інфармацыйны абмен, у абедзьвюх суседніх рэспубліках не працуе ніводнага ўласнага карэспандэнта, інфармацыя ідзе толькі праз былы цэнтр - Маскву ці замежныя радыёгаласы. Праграма візіту, складзеная ў адпаведнасьці з пажаданьнямі гасьцей, была дастаткова разнастайнай.

Так, украінскія журналісты працавалі назіральнікамі на парламанцкіх выбарах. Яны наведалі ўчасткі ў акругах, дзе балатаваліся вядомыя беларускія палітыкі, такія як экс-сьпікер С.Шушкевіч, лідэр Беларускага Народнага Фронту З.Пазьняк, Старшыня Партыі Народнай Згоды Г.Карпенка, лідэр Аб'яднанай Дэмакратычнай Партыі А.Дабравольскі, пабывалі ў Цэнтрвыбаркаме, прынялі ўдзел у некалькіх прэс-канферэнцыях, наладжаных ЦВК, дэлегацыямі Эўрапарламанту, Рады Эўропы, OSCE. Журналістаў, як і ўсіх міжнародных назіральнікаў, вельмі ўразіла адсутнасьць магчымасьці весьці перадвыбарчую агітацыю, выступаць у рэспубліканскай прэсе, на радыё і тэлебачаньні з перадвыбарчымі праграмамі.

Вельмі зьдзівілі іх і фармулёўкі пытаньняў рэферэндуму, а таксама асьвятленьне яго ў "Советской Белоруссии" і "Знамени юности", дзе напярэдадні выбараў, у суботу, былі надрукаваны ўзоры запаўненьня бюлетэняў. Увогуле, паводле ацэнак украінскіх калег, падчас выбараў панавала атмасьфера старых савецкіх часоў, дзе ўсё было спачатку вызначана, і перадвыбарчая барацьба стала проста лішняй.

Нават тыя непасьлядоўныя рэформы, якія ідуць на Украіне, ня могуць быць параўнаныя з адпаведнымі працэсамі ў Беларусі - настолькі маруднымі, што беларуская рэчаіснасьць падаецца як тупіковая. Непараўнальныя таксама ступень дэмакратызацыі грамадзтва і разьвіцьцё незалежных сродкаў масавай інфармацыі.

Украінскія журналісты сустрэліся з лідэрам БНФ Зянонам Пазьняком, былым Старшынёй Вярхоўнага Савета Станіславам Шушкевічам, пазнаёміліся з іхняй ацэнкай разьвіцьця палітычнай і эканамічнай сітуацыі ў краіне. Гэтыя сустрэчы пакінулі прыемныя ўражаньні у калег з Украіны.

У праграму візіту ўваходзіла знаёмства з самымі рознымі беларускімі выданьнямі і інфармацыйнымі агенствамі, дзяржаўнымі і незалежнымі - "Свабодай" і "Народнай газетай", "Советской Белоруссией" і "Белорусской деловой газетой", Белінфармам і Мас-медыя Цэнтрам. Асаблівую цікавасьць у ўкраінскіх калег выклікалі таксама сустрэчы з прадстаўнікамі ўкраінскай дыяспары на Беларусі, з супрацоўнікамі ўкраінскага пасольства. Як у першым, так і ў другім выпадку ішла размова пра больш трывалы інфармацыйны абмен паміж Беларусьсю і Украінай. Дарэчы, візіт журналістаў у Менск супаў з прыездам на Беларусь міністра замежных спраў Украіны Г.Удавенкі. Разам з ім журналісты былі на прыёме ў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь і Старшыні Кабінета Міністраў. Такім чынам, зьявілася магчымасьць параўнаць ацэнкі беларускага жыцьця, прадстаўленыя афіцыйнымі коламі, з ацэнкамі іх апанентаў з дэмакратычнай апазіцыі. Украінскія калегі былі сьведкамі зьмены дзяржаўных сімвалаў у Прэзідэнцкім палацы да іх афіцыйнага зацьверджаньня ў заканадаўчым парадку.

Украінскія сябры сустрэліся з кіраўніцтвам выдавецтва "Беларуская энцыклапедыя", Міжнароднага адукацыйнага Цэнтра, Беларускага Фонду Сораса, азнаёміліся з іх напрацоўкамі і персьпектывамі дзейнасьці. Наведалі інфармацыйна-адукацыйны Цэнтр праблем самакіраваньня пры Фоньдзе падтрымкі дэмакратычных рэформ імя Л.Сапегі, дзе мелі гутарку з экспертамі і супрацоўнікамі Фонду. У вольны час украінскія журналісты адкрылі для сябе цікавыя мясьціны Менска, як, напрыклад, Стары Горад і Лошыцкі парк, наведалі тэатры і музеі.

Паводле агульнага прызнаньня беларускага і ўкраінскага бакоў, такія абмены вельмі патрэбны для прадстаўнікоў абедзьвюх краін. Яны даюць магчымасьць, у першую чаргу, даволі грунтоўна, усебакова і аб'ектыўна паказаць жыцьцё братняга народа, расказаць пра яго праблемы і дасягненьні, пераняць карысны досьвед.

У персьпектыве Фонд падтрымкі дэмакратычных рэформ плануе працягваць абмены групамі журналістаў і сьпецыялістаў па пытаньнях мясцовага самакіраваньня як з Украінай, так і з іншымі краінамі СНД і далёкага замежжа.

**А.ЗАВАДЗКІ**

**ВІЛЕНСКАЯ ВЫБАРЧАЯ АКРУГА N1**
**Ваш выбар у гарадзкі савет 11 чэрвеня 1995 года -**
**гэта наша штодзённае жыцьцё на будучыню !**



***Калі вы супраць:***

- злачыннасьці ў горадзе;
- жабрацкага стану гараджанаў;
- недагледжаннасьці дамоў і падворкаў;
- неасфальтаванасьці дарогаў;
- і іншай неўпарадкаванасьці

***Галасуйце ЗА***

Таццяну Маліноўскую -

***Вашу суседку,карэнную гарадзенку,нашага разумнага, узважанага і надзейнага сябра.Яна ведае гісторыю і сучасныя праблемы горада, мае дэпутацкі вопыт у дэмакратычнай апазіцыі, працуе выкладчыкам універсітэту.***

**Выйграем разам !!!**

## УРА! У НАС ЁСЬЦЬ СВОЙ КАШПІРОЎСКІ

**Вусаты мужчына з тэлеэкрана зьвяртаецца да гледачоў:**

**- Даю ўстаноўку: у вас ледзьве хапае грошай на самыя танныя прадукты, вы адчуваеце сябе жабракамі? Брахня! Я вас усіх ужо накарміў (абяцанкамі), я спыніў цэны, а цяпер увогуле іх паніжу. Я загадаў долару трымацца на адным месцы, а зараз апушчу яго ўдвая ці нават болей - да 5-6 тысячаў рублёў (ці варта нагадваць, што наступнага дня амерыканская валюта адразу пачала даражэць?!). У вас няма грошай на лекі? Я неўзабаве пазачыняю камерцыйныя аптэкі! А лекі вам увогуле больш не спатрэбяцца! Даю наступную ўстаноўку: у вас праходзяць усе хваробы, швы самі зарастаюць, вам робіцца добра і весела без дай прычыны.**

Вы думаеце, што гэта - нейкі самазваны прарок, звычайны шарлатан, ці проста доктар Кашпіроўскі? Ды не, гэта - наш Рыгоравіч, які з тэлеэкрана замбіраваў публіку наконт выбараў. Спачатку сьвідруючы гледачоў вачыма зусім на капыл Кашпіроўскага, увёў у мазгі ўстаноўку, што на выбары ісьці ня трэба, бо новыя дэпутаты "усё раўно абмануць". І ў насельніцтва запанавалі настроі на выбары не хадзіць.

Аднак дарадчыкі яму сказалі, што ты, Рыгоравіч, маўляў, глупства зрабіў. Цяпер выбаршчыкі і на твой рэферэндум ня прыйдуць, бо ён жа адначасова з выбарамі будзе. "Сямён Сямёныч!" - пляснуў сябе па лбу Лукашэнка і зноў запатрабаваў сабе тэлэфіру. Але зноў перабраў час, бо ўсё ня мог выгаварыцца. Калі першага разу замест 2-х гадзін гаманіў у тэлевізары 2.33, дык цяпер замест 2.30 усе 3 гадзіны 10 хвілін прамяньціў языком.

Цяпер ужо ён прасіў публіку абавязкова прыйсьці на выбары і намякнуў, што пажадана ўсіх кандыдатаў выкрэсьліць, калі яны не належаць да ягонай каманды. Карацей, справіў уласную ж памылку. У прыватнасьці Лукашэнка заклікаў "саацечаственікаў" калі і галасаваць, дык за "руководителей колхозов, совхозов, фабрик, доярок и крестьян, которые вам напишут законы".

Яшчэ ён самакрытычна дадаў: "Не падайте на большие обещания... Те, кто обещает, никогда своих обещаний не сдерживают".

Лукашэнка гаварыў безупынна і ўвесь час вяртаўся да тэмы выбараў. Двойчы (!) папрасіў прабачэньня за хлусьню ў З.Пазьняка "и его всей компании, которая оплевала президента больше, чем нужно". І зьвярнуўся да Бога (у якога ня верыць): "Упаси Господь наш героический народ от власти этих людей", якія, нібыта, "разбивали водку" аб статую Леніна. І ад усяго гэтага гвалту ці яшчэ нечага, аказваецца, "у президента в голове что-то сдвинулось", - прынамсі, ён сам працытаваў так нечыя словы.

Вось такі сумбур застаўся ў мяне ў галаве пасьля гэтай дурацкай перадачы. Гарэлкі яму было шкада ці што? А нібыта была пагалоска, што ў яго ледзь не язва і піць нельга. З нецярплівасьцю чакаю наступнага тэлеэфіра нашага прэзідэнта.

Ледзь не забыўся! Яшчэ вельмі ўразілі матэматычныя здольнасьці Лукашэнкі. "Мы на заседании Кабинета Министров обнаружили, что мы инфляцию считать не умеем. Мы считали, что 14%. А я сейчас могу доказать, что всего 7". А заўтра ён загадае лічыць інфляцыю нулявой. Выкапаны Кашпіроўскі!

І ўвогуле нам можна ганарыцца перад усім сьветам, што сярод "жулья" ёсьць і адзін сумленны, крыштальна чысты чалавек. Спашлюся на яго ўласную самаацэнку: "Президент Республики Беларусь не взяточник, об этом знает уже весь мир". Ура!

**Сяргей МАКСІМОВІЧ.**

## УДЗЕЛ АПАЗІЦЫІ БНФ У ПРАЦЫ ГЭТАГА ПАРЛАМАНТА НЯ МАЕ СЭНСУ

**Як стала вядома, апазіцыя Беларускага Народнага Фронту ў Вярхоўным Савеце ня мае намеру ўдзельнічаць у паседжаньні пазачарговай сесіі Вярхоўнага Савета 12-га скліканьня, якая пачне сваю працу 14-га чэрвеня.**

На думку сяброў парламанцкай апазіцыі, гэты Вярхоўны Савет ня можа лічыцца паўнавартасным пасьля таго, як у залу паседжаньняў былі ўведзены жаўнеры, і Вярхоўны Савет ніяк на гэта не адрэагаваў. "Раней мы маглі выкарыстоўваць парламанцкую трыбуну для папулярызацыі сваіх мэтаў праз тэлебачаньне і радыё. Зараз сродкі масавай інфармацыі манапалізаваны прэзідэнтам, і мы такую магчымаасьць страцілі", - заявіў каардынатар апазіцыі БНФ у парламанце Сяргей Навумчык. Далей ён адзначыў, што ўдзел апазіцыі ў працы парламанта ня мае сэнсу яшчэ й таму, што парламант ператварыўся ў "дэкаратыўны прэзідэнцкі ворган".

## ВАЛЕРЫ ЦІХІНЯ ПАКУЛЬ ШТО НЕ ПРАЦУЕ

**5-га чэрвеня старшыня Rанстытуцыйнага суда Валеры Ціхіня не распачаў, як паведамлялася раней, выкананьня сваіх абавязкаў.**

Прэс-сакратар канстытуцыйнага суда Алег Маскалёў заявіў карэспандэнту, што спадар Ціхіня па-ранейшаму знаходзіцца на лекаваньні пасьля сардэчнага прыступу, які здарыўся з В. Ціхіням пасьля размовы з праэзідэнтам Беларусі. А. Маскалёў выказаў надзею, што старшыня КС здолее распачаць працу ў сярэдзіне чэрвеня.

**СІМ**

## «У РАЁНЕ ЛЕВАЙ ШЧАКІ"

**6 чэрвеня ў Савецкім раённым судзе г.Менска адбыўся суд над старшынёй Патрыятычнага Руху БЗВ Міколай Статкевічам з нагоды яго аплявухі рэжысёру фільма "Нянявісьць..." Юрыю Азаронку.**

Азаронак да заяўкі дадаў даведку аб лёгкім цялесным пашкоджаньні ў раёне левай шчакі.

Суд прызнаў Статкевіча вінаватым у "дробным хуліганстве" і аштрафаваў на 60 тысяч рублёў.

Падаецца, што пасьля суда жадаючых даць Азаронку ў морду дабавіцца.

**Вацлаў СЯРПІНСКІ.**

## ВЕРУ Ў СЬВЕТЛУЮ ЗОРКУ БЕЛАРУСІ

**6 лютага падчас афіцыйнага візіта ў Летуву прэзідэнтБеларусі А.Лукашэнка сустрэўся ў Вільні з мясцовымі беларусамі. Адбылася гаворка, на працягу якой прэзідэнт на беларускай мове запэўніў прысутных у сваёй прыхільнасьці да беларускай мовы, да справы Адраджэньня беларускасьці ня толькі на Бацькаўшчыне, але і ў іншых краінах. Прайшло ня шмат часу, Аляксандр Рыгоравіч ініцыіруе рэферэндум па пытаньнях мовы, сімволікі. Рэферэндум па сутнасьці накіраваны на асіміляцыю і вынішчэньне беларускага народа як этнаса. Атрымалася, што Лукашэнка нам маніў.**

Зараз, калі апалагеты рэферэндуму і іх пасьлядоўнікі не хаваюць шалёную радасьць, што за 70 год яны задушылі беларускі народ назусім і маюць у гэтым вялікі вопыт, неабходна падумаць, а хто застаўся каля ўлады, хто ўзначальвае банкі, фірмы, займае міністэрскія крэслы? Усюды яны, крыўдзіцелі і душыцелі беларусаў. Яны не чырванеюць, гучна крычаць, што ў сёньняшняй галечы народа вінаваты дэмакраты і БНФ. Навошта гэта, каму вы пускаеце пыл у вочы? На Беларусі была беларуская мова нават тады, калі лепшыя людзі Расеі, такія як навукоўцы Шчыкаціхін, Замоцін, палкаводзец Жукаў і іншыя, апынуўшыся тут, вывучалі беларускую мову і гісторыю нашай Бацькаўшчыны. А цяпер, пасьля таго, як былі зьліквідаваны ўсе навучальныя ўстановы на беларускай мове, а сьледам за імі і школы, то два пакаленьні атрымалі адукацыю рускамоўных сьпецыялістаў. Як можна казаць у гэтым выпадку аб волевыяўленьні беларускага народа? Нельга кідаць камень у беларуса за яго падтрымку на рэферэндуме расейскай мовы. Бо на сваёй роднай ён не вывучыцца на інжынера, лекара ці настаўніка. Калі ў такія абставіны паставіць любы іншы народ на тэрмін 50-70 год і паклікаць гэты народ на падобны рэферэндум, то, відавочна, былі б таксама такія вынікі, як і на Беларусі.

Але адняць мову ў народа ім мала. Ім патрэбна зьнішчыць бел-чырвона-белы сьцяг, што быў узьняты Першым усебеларускім кангрэсам, які абвясьціў незалежнасьць Беларусі. Менавіта гэты сьцяг падчас кангрэсу перад усімі пацалаваў стары генерал-беларус. Лукашэнка і яго памагатыя не цалавалі сьцяг, бо ён ім чужы.

Безумоўна, Беларусь перажывае сёньня адзін з самых жахлівых момантаў ў сваёй гісторыі. І ўсё ж я веру ў шчасьлівую зорку Беларусі. Можна затрымаць станаўленьне дзяржаўнасьці на 10-20 год, але нельга зьнішчыць беларускую гісторыю, традыцыі, культуру. Беларусь перажыла ўсе нягоды. Перажыве і ўсенародна абранага прэзідэнта.




**Альверы ВАЙЦАХОЎСКІ.**

## ВЫБАРЫ... БЯЗ ВЫБАРУ

Вяскоўцы Шчучынскага раёну да гэтай пары яшчэ не зразумелі,што выбары ў мясцовыя Саветы могуць быць дэмакратычнымі. Таму, як і ў ранейшыя гады, па большасьці выбарчых акругах кандыдатамі ў дэпутаты сельскіх Саветаў зарэгістраваны па аднаму чалавеку. Сярод прэтэндэнтаў у мясцовыя органы ўлады— зноў кіраўнікі гаспадарак і прамысловых прадпрыемстваў, інжынеры, аграномы, загадчыкі ўчасткаў, педагогі...

Напэўна, няцяжка рабіць выбар, калі ў бюлетэнь для галасаваньня ўнесена толькі адно прозьвішча...

**А.БІБІКАВА.**

 

# ГРАМАДЗТВА

## ТОРЖЫШЧА - ГЭТА НЯ ПРОСТА МЕСЦА, ДЗЕ МОЖНА НЕШТА КУПІЦЬ, ЯНО ЯШЧЭ ДЛЯ МНОГІХ ГАРАДЗЕНЦАЎ АДЗІНАЯ КРЫНІЦА ПРЫБЫТКУ

**Першы чэрвеньскі уікэнд для тых гарадзенцаў, што папаўняюць сямейны бюджэт гандлем на торжышчы, даждлівая раніца не сапсавала. Падклаўшы пад свой тавар поліэтыленавую плёнку, гандляры чакалі пакупнікоў, а тыя, як бы вывучаючы цярплівасць прадаўцоў, не сьпяшаліся даставаць з кашалькоў грошы, каб усьцешыць сябе пакупкай. Назіраючы гэты малюнак, праходзіш адзін гандлёвы шэраг, затым другі. Маці Боская! Чаго тут толькі ня ўбачыш. Прадаецца ўсё, ад гульнёвых картаў да дываноў, футраў, купальных касьцюмаў. Схованы пад поліэтылен тавар і закутаны ў такіж поліэтылен прадавец больш нагадваюць глыбы нейкай бясформеннасьці. Варта толькі спыніць позірк на якой-кольвечы рэчы, як поліэтыленавая глыба ажывае, пачынае варушыцца, прапаноўваць.**

Маладая дзяўчына, убачыўшы маю цікаўнасьць да нататнікаў, што ў адным стосе ляжаць ля яе ног пад дажджом, узрушана расхвальвае свой тавар. Дзяўчо прыехала ў Горадню з групай сяброўак з Пскова. Раней яны ўсе разам езьдзілі ў Фінляндыю, куплялі паліграфічную прадукцыю, цяпер вось прадаюць. Як ідзе гандаль? Па-рознаму. Бывае дзень, калі прадаць можна шмат, бывае што і нічога за дзень не прадасі. Адным словам, ёсць гандлёвы фарт, значыць, ты маеш прыбытак, адвярнулася фартуна - стой і чакай. Гандлёвыя шэрагі, людзі, тавар - усё разам стварае і сьвяточны настрой, і нейкую няўпэўненасьць, бо за бойкай прапановай купіць, у вачах прадаўца чытаецца сум, туга, разгубленасьць. Я шпацырую ўздоўж гэтага люду. Вось ужо нехта нешта купіў. Хутка пералічаны грошы і схаваны ў кайстру. Купленая рэч таксама зьнікае ў валізцы. Двое зусім невядомых людзей дзякуюць адзін другога. Можа здарыцца так, што болей яны не сустрэнуцца, але аднаму з іх застаецца ўспамін - купленая на торжышчы рэч. Што будзе думаць той, хто прадаў, згадаць цяжка. Можа, будзе ўспамінаць дождж, можа, адзінага ўраніцу пакупніка. Кожнаму сваё. Я ж працягваю вандроўку. Спыняюся, слухаю, аб чым гамоняць людзі. Немаладыя мужчыны даводзяць адзін другому пра курс долара, пра расейскі рубель, пра тое, што ўсё ж такі лацьвей прадаваць толькі за зялёныя. Яны цьвёрдая валюта, усьміхаецца адзін, а таму надзейныя. Бабулькі, дзядулі, якім ужо за 60, лёгка падлічваюць курс, нетаропка вядуць разьлікі. Тут іх рабочае месца. Іх не пужае дождж, сьпякота, холад. Торжышча - гэта адзінае месца, дзе можна набыць патрэбны тавар. Тавар жа тут таньнейшы, чым у краме. Порткі, боты, кашулі, на якіх красуюцца лэйбы беларускіх дзяржпрадпрыемстваў, на базары прадаюцца на 20 - 30 тысяч таньней, чым у краме. Таму сёньня ў Горадні на торжышча сьпяшаюцца, бо гэта адзінае месца, дзе побач з айчынным таварам прадаецца мноства імпарту, які па якасьці і лепшы і таньнейшы.

**Г.ДАМІНІКАНСКІ.**

## СЬВЯТА ЁСЬЦЬ, АБАРОНЫ НЯМА

**Міжнародны Дзень абароны дзяцей адзначаўся ў Шчучыне гучна і весела. З самага ранку на гарадзкім стадыёне для мясцовай дзятвы былі наладжаны тэатралізаванае прадстаўленьне,канцэрт,спартландыя.Пад сьпякотнымі промнямі сонейка хлопчыкі і дзяўчынкі малявалі на асфальце,сьпявалі,танцавалі, запускалі авіямадэлі,спаборнічалі ў спрыце і лоўкасьці,атрымоўвалі прызы,ласаваліся прысмакамі.Арганізатары сьвята і фундатары зрабілі ўсё,каб вочы маленькіх шчучынцаў сьвяціліся шчасьцем.**

У гэты ж час у нашым горадзе ледзь не паміралі ад голаду шасьцёра дзяцей(пра гэта стала вядома пазьней).Іх маці,поўная адчаю і болю, меркавала,дзе б узяць хаця б крышачку ежы, каб падтрымаць сілы малых...

Наўрад ці гэтая жанчына была адзіная ў сваім адчаі.Сёлета на сьвята мала хто з бацькоў здолеў зрабіць сваім дзецям хаця б невялічкія падарункі.Многія нават не змаглі накарміць іх прыстойнымі абедамі...

Затое беларуская дзяржава шыкавала: выкідвала на вецер мільёны даляраў,зьнішчаючы спрадвечную нацыянальную сімволіку...

Дык ад чаго, ад каго павінны мы абараняць сваіх дзяцей? Ад палітыкі антынароднага ўраду з яго лозунгавым клопатам пра падрастаючае паакаленьне? Ад злачыннасьці, радыяцыі, нітратаў, ад хваробаў, голаду, гвалту? Ад людзкой чэрствасьці, абыякавасьці, жорсткасьці ?

Бедныя дзеці ў беднай дзяржаве...Яны маюць шмат правоў на паперы (памятаеце славуты Закон "Аб правах дзяцей")? На справе— выхаваньне ў малазабясьпечаных сем"ях, няякаснае харчаваньне, адсутнасьць лекаў, брудныя двары, нізкапробная кіна-і відэапрадукцыя, раўнадушша, хамства...І такія рэдкія сьвяты... Быццам танныя падачкі ад дарослых...

**АЛА БІБІКАВА,**
**г.Шчучын**

## ЗА ШТО ЦЯПЕР ЗМАГАЦЦА СЛАВЯНСКАМУ САБОРУ "БЕЛААЯ РУСЬ" І САЮЗУ АФІЦЭРАЎ

**Эйфарыя пасьля рэферэндуму малапамалу праходзіць у "пераможцаў" накшталт Славянскага Сабору "Белая Русь", "Саюзу афіцэраў". Цяпер, калі яны атрымалі тое, за што змагаліся фактычна чатыры гады,( а гэта бээсэсэраўскі штандар, герб, інтэграцыя з Расеяй) прыйшоў час, як кажуць, падбіць бабкі.**

Падлік рахунку, відаць, наводзіць на сумныя разважаньні коршунаў з Славянскага Сабору і Саюзу афіцэраў. Мэты дасягнуты, болей няма на што разьлічваць, за што змагацца. Застаецца адно выйсьце - самараспусьціцца. Але як жа проста так сысьці з палітычнай авансцэны? Як прызнаць, што лёс арганізацыі такі кароткі? Цяжка, ой як цяжка. І усё-такі асэнсоўваць пройдзенае прыдзецца "спадарам" з вышэйзгаданых арганізацый. Па-першае таму, што галоўнай мэты - аб'яднаньня славянскіх дзяржаў Усходняй Эўропы ў адзіную імперыю - яны не дасягнулі, як і не змаглі на месцах аб'яднаць простых людзей ідэяй славянскага братэрства. Яскравае сьведчаньне гэтаму - выбары, на якіх кандыдаты ад Славянскага Сабору засталіся па-за ўвагай выбаршчыкаў. Ёсьць яшчэ і іншы бок - гэта тыя шкоды, якія нанесьлі сваёй дзейнасьцю Славянскі Сабор і Саюз афіцэраў суверэннай Беларусі, самой ідэі славянства, нарэшце.

Прыкладаў шмат. Найбольш яскравыя - гэта праяўленьне лютай нянавісьці да дадзенай гісторыяй Беларусі магчымасьці самавызначэньня. Хіба ж могуць браты славяне забараніць братам славянам-беларусам гэтае права? Не, бо такія захады не адпавядаюць чалавечым нормам, яны больш стасуюцца да дзікунства, інстынкту дзікай жывёлы. Па-другое, - за што галасавалі члены гэтых арганізацый на рэферэндуме? Вядома ж, супраць бел-чывона-белага сьцяга і Пагоні - гістарычных сімвалаў славян. Менавіта пад гэтыі сімваламі была здабыта перамога ў бітве на Грунвальдзкім полі, у якой бралі ўдзел сумесна з беларускімі харугвамі і рускія, і ўкраінскія палкі. Як жа цяпер, пасьля таго, як ідэя аб'яднаньня славян пацярпела поўнае фіяска, а на Беларусі наноў запанаваў прывід сацыялістычнага выбару з абавязковай пабудовай камунізму, знайсьці сваё месца Славянскаму Сабору і Саюзу афіцэраў? Шанц, які даў час выступіць з іншымі дэмакратычнымі сіламі на абарону незалежнасьці Беларусі змарнаваны. Не здабыць Славянскаму Сабору і Саюзу афіцэраў палітычнага капіталу і ў прарасейскіх захадах-ініцыятывах. Гэтую ініцыятыву вырваў у іх сам прэзідэнт А.Лукашэнка з камандай. Іншых магчымасьцяў выявіць сябе гэтым арганізацыям гісторыя не дала.

Палітычнае банкруцтва Славянскага Сабору і Саюзу афіцэраў - гэта адплата самой гісторыі за ўласную сьлепату.

**У.БЕРНАРДЗІК.**

## РАСЕЙСКАЕ МЫТНАЕ ПРАДСТАЎНІЦТВА

**Пры Гарадзенскім мытным камітэце створана расейскае мытнае прадстаўніцтва.**

Яго начальнік спадар А.Лойка пракаментаваў сваю работу так:"На Беларусі мы працуем вахтавым спосабам. Вахта доўжыцца месяц. Жывем тут, у Горадні, у гатэлях, у асноўным праводзім афармленьне дакумантаў на грузы, што йдуць праз беларускую мяжу на Расею транзітам.

## ЗЯЛЁНА-ЧЫРВОНЫЯ ШТАНДАРЫ ШЫЮЦЬ У ГОРАДНІ

**На Гарадзенскім вытворчым аб'яднаньні "Сузор'е" актыўна шыюць новыя зялёна-чырвоныя дзяржаўныя сьцягі.**

Заказы прыходзяць з усіх куткоў Гарадзеншчыны. Для іх выкананьня задзейнічаны вытворчы цэх і ўчастак аўтаматычнай мастацкай вышыўкі. Каб ветэраны маглі доўга любавацца сваім і прэзідэнцкім "вынаходніцтвам", на флагштоках сельскіх, гарадзкіх і вабласнога Саветаў для вырабу штандараў выкарыстоўваецца замежная плашчоўка.

Дарэчы, па самых сьціплых падліках на замену сімволікі ў маштабах Беларусі спатрэбіцца ня менш 900 мільярдаў рублёў.

**Г.А.**

## ГАРАДЗЕНСКІЯ СТРАВЫ САМЫЯ СМАЧНЫЯ

**Два дні запар на базе гатэльнага комплексу "Турыст" у Горадні праходзіў рэспубліканскі конкурс кулінараў. Конкурс, а ўзялі ў ім удзел больш за 30 сьпецыялістаў са ўсёй рэспублікі, праходзіў па двух катэгорыях: сярод паварoў і афіцыянтаў.**

Найбольшы посьпех мелі гаспадыні конкурсу. Вольга Чамбровіч заняла першае месца ў спаборніцтве пavароў, а Алена Пілец была другой сярод афіцыянтаў.

Вольга і Алена працуюць у рэстаране гатэля "Турыст".

## СПАДАРУ КРЭНЮ БОЛЬШ ДА ГУСТУ ЗЯЛЁНЫ КОЛЕР

**Днямі ў Гарадзенскім дзяржаўным універсітэце імя Я.Купалы прайшла канферэнцыя, прысьвечаная 40-годдзю Студэнцкага навуковага гуртка.**

Канферэнцыя распачалася з пленарнага паседжаньня, а затым прадоўжыла сваю работу на трох навуковых секцыях.

На жаль, канферэнцыя не абыйшлася без прыкрасьці. Намаляваныя заранёў студэнтамі аб'явы ў гістарычных бел-чырвона-белых колерах не спадабаліся загадчыку кафедры гісторыі Беларусі ГрДзУ І.П.Крэню. Спадар Крэнь загадаў перарабіць аб'явы і выкарыстаць колеры сьцяга, які атрымаў падтрымку на рэферэндуме.

**Паўлюк ВАЛЕНТА.**

## ПІРРАВА ПЕРАМОГА

**Не пасьпелі 15 траўня 1995 г. абвясьціць папярэднія вынікі прэзідэнцкага рэферэндуму, як 16 траўня ў 16 з нечым гадзін халуі прэзідэнта зьнялі з Дома ўрада ў Менску нацыянальны сьцяг беларусаў і начапілі чырвона-зялёны, які прэзідэнт назваў чамусьці "новым".**

**Чаму так сьпяшаўся Лукашэнка? Чаму сьцяг зьмянілі да таго, як новы парламант разгледзеў вынікі рэферэндуму, да таго, як у дзеючую Канстытуцыю былі ўнесеныя зьмены , зьвязаныя з вынікамі рэферэндуму?**

Першая прычына: ні чырвоная зорка камуністаў не ўводзілася рэферэндумам у якасьці нацыянальнага сімвала, ні так званы сьцяг БССР рэферэндумам не зацьвярджаўся. Распрацавалі напрыканцы жыцьця Сталіна ў Маскве сімвалы для ўсіх былых саюзных рэспублік і загадалі ўводзіць на месцах, каб паказаць дурным буржуям, што ў СССР кожная рэспубліка - суверэнная, са сваім гербам і сьцягам.

Другая: геральдыка - справа складаная, для зацьвярджэньня сімвалаў патрэбныя веды, якіх звыклы люмпэн (а грамадзтва наша зараз люмпэнізаванае) і нават звыклы селянін, ці рабочы ня маюць. Таму ні ў адной краіне сімвалы дзяржавы не зацьвярджаліся ўсенародным рэферэндумам. Тут "товарищ" Лукашэнка - наватар. Нават Сталін, які, безумоўна, ненавідзеў усё польскае, не рызыкнуў ў 1944-45 гады навязаць палякам які-небудзь сьцяг метадам рэферэндума. Ведаючы аб узроўні нацыянальнай сьвядомасьці палякаў, ён пагадзіўся і на бел-чырвоны сьцяг і нават на белага арла без чырвонай зоркі над яго галавою (у гербы ў Балгарыі і Чэхаславакіі ён унёс-такі чырвоныя зоркі).

А вось "товарищу" Лукашэнку далёка да такой дзяржаўнай мудрасьці. Ён спачатку "купляе" войска і міліцыю высокімі заробкамі, а пасьля ідзе насустрач патрабаваньням "пятай калоны" Масквы аб зьмене дзяржаўных сімвалаў. Бо розным гэтым "саборам" ды "рухам" патрэбны быў любы сімвал, абы не нацыянальны, абы не гістарычны, які даказвае, што беларусы ня мелі з рускімі "агульнай векавой гісторыі". Абы сімвал не будзіў у моладзі гістарычнай сьвядомасьці, астатняе ня так важна!

Трэцяя прычына пасьпешлівасьці - за зьмену сімволікі прагаласавала менш за палову выбаршчыкаў, калі ўлічваць тых, хто гэтае галасаваньне проста байкатаваў. Бо ня ўсе прыйшлі на выбарчыя ўчасткі, трэцяя частка выбаршчыкаў вырашыла не прымаць удзелу ў фарсе. За ўвядзеньне "новага" герба і сьцяга на Беларусі прагаласавала 3 620 658 чалавк з 7,5 мільёнаў выбаршчыкаў. Гэта азначае, што "за" прагаласавала толькі 48,2%. Новы парламант, калі ён будзе нацыянальна сьвядомы, абавязкова зьверне на гэта ўвагу. Бо байкот галасаваньня (выбараў) - гэта ж форма пратэсту супраць ягонай бязглуздасьці.

Прэзідэнт краіны павінен аб'ядноўваць нацыю, быць "бацькам" для любога з нас, нягледзячы на нашыя погляды. Калі ж ён выражае прыхільнасьць толькі для часткі насельніцтва, асабліва для некарэннай яго часткі, для нейкай ідэалогіі, то гэта ўжо не прэзідэнт, гэта - дыктатар!

Нікалі Сталін аплёўваў увесь народ дзеля мэт невялікай тады кучкі камуністаў. Але Гітлер напаў на СССР і Сталіну прыйшлося успомніць пра народ, яго гісторыю. І зьявіліся на сьвет ордэны Суворава і Нахімава, Аляксандра Неўскага і Багдана Хмяльніцкага, зьявіліся пагоны, і вайна супраць гітлераўцаў была названа "Вялікай Айчыннай". Як прыжучыла, дык і пра царкву ўспомнілі, і патрыятызм ня стаў лічыцца буржуазным ачмурэньнем.

А вось дыктатар Франка быў больш разумны, таму яго дзяржава не распалася і ў яе замежныя бізнэсмэны ахвотна інвеставалі свае грошы, бо ў грамадзтве не было варожасьці, хаця адны ваявалі за Франка, іншыя - супраць яго. Але могілкі ахвяр гэтай грамадзянскай вайны - агульныя, іспанскім камуністам ніхто не вытыкае таго, што яны ваявалі практычна за інтарэсы Сталіна, а не за інтарэсы Радзімы.

А ў нас па загаду прэзідэнта паказваюць па тэлебачаньні агіднейшы фільм, нізкапробную агітку пад назовам "Нянавісьць". У нас грамадзян дагэтуль дзеляць на "чыстых" і "нячыстых". Прэзідэнт дазваляе сабе ганьбіць беларускую мову, і нацыянальныя сімвалы, якія намнога старэйшыя за чырвоную зорку, так любую яму. Ці будзе адзінства народа ў гэтых абставінах?

І ня трэба ашукваць саміх сябе думкамі, быццам нашыя суседзі (за выняткам Расеі) ў захапленьні ад таго, што на гербе нашай дзяржавы зноў зьявіўся сімвал дыктатуры пралетарыяту - чырвоная зорка.

Так што наш народ яшчэ адчуе на сваім карку наступствы таго, што Лукашэнка ўсялякімі падманамі і парушэньнямі правоў чалавека (апазіцыі не давалі слова ні на радыё, ні на тэлебюачаньні) дабіўся выкананьня свайго абяцаньня перад "пятай калонай" Масквы (адстаўнікі, ветэраны, сабораўцы, ДСПС і іншыя аб'яднаньні камуністаў).

Пойдзе замежны капітал у нестабільную дзяржаву, на гербе якой сімвал дыктатуры пралетарыяту? Мяркую - не!

Так што, "товарищ" Лукашэнка свае амбіцыі задаволіў, а разьлічвацца за гэта нам, менавіта беларусам, а ня тым адстаўнікам, якія выядуць у Расею, калі толькі там будзе лягчэй жыць. Яны вернуцца на сваю Радзіму, а наша Радзіма тут, нам няма куды ўцякаць.

Дай Бог, каб мае меркаваньні не збыліся! Дай Бог, каб у нашым грамадзтве царыў спакой і згода, каб нашыя адносіны з Расеяй абмежаваліся эканамічнымі пытаньнямі. Але я мяркую, што падтэкст тут палітычны, бо для ўзаемавыгадных эканамічных адносін рэферэндуму ня трэба. Капітал заўсёды цячэ туды, дзе ёсьць выгада. А вось каб затыкаць нашымі хлопчыкамі дзіркі ў межах Расеі - патрэбная згода насельніцтва суверэннай дзяржавы.

Вынікі гэтага рэферэндуму будуць яшчэ ня раз выкарыстоўвацца прэзідэнтам пры розных нагодах. Але хутка ўжо той час, калі народ расплюшчыць вочы і пабачыць, што "кароль" голы, што акрамя шкоды свайму народу "кароль" гэты нічога ня даў. Мяркую, у гэтым выпадку "каралю" не дапаможа ні войска, ні міліцыя, колькі б ім ні плацілі. Шкада толькі, што за пірравыя перамогі Лукашэнкі плаціць прыйдзецца ня толькі яму, а ўсім нам.

**М.БУБЛІКАЎ.**





## СУМЕЖЖА

# НАСТАЛЬГІЯ ПА ЦЫНКАВЫХ ТРУНАХ

**...Людзкая памяць кароткая - усяго дзесяць гадоў назад у Беларусь прывозілі цынкавыя труны з Аўганістана. Яшчэ ўчора, стаўшы незалежнай нейтральнай дзяржавай, наша краіна магла б накіраваць свае высілкі на мірную стваральную працу, але правадыр, якому народ даверыў свой лёс, зрабіў выбар на карысьць мінулага. Заўтра цынкавыя труны могуць зноў зьявіцца ў беларускіх хатах...**

Зьнявечаныя зброяй масавага паражэньня людзі, зьнішчаныя ўшчэнт гарады і вёскі, сьлёзы дзяцей, згубіўшых у полымі вайны сваіх бацькоў, тысячы ўцекачоў на дарогах, кананада бамбардыровак, калоны бранетэхнікі... Гэта ня страшны сон, ня кадры з мастацкага фільма пра "Великую Отечественную". Гэта сапраўдная вайна, якая можа пастукацца ў вашыя дзьверы ўжо сёньня. Гэта вайна ў Чачні...

Гэта кадры з трохгадзіннай дакументальнай стужкі, якую зьнялі ангельскія журналісты ў Чачні. Мне давялося пабачыць тое, што так старанна хаваюць "сьпецыялісты" Астанкіна. І тое, што убачыў - да гэтага часу стаіць у вачах, не дазваляе маўчаць.

За што? Чаму? Па якому праву вядзецца сапраўдны генацыд супраць цэлага народу? Сумленныя і разумныя людзі даўно зразумелі прычыны і сэнс чачэнскай бойні. Тое, што адбываецца зараз на Каўказе, могло адбыцца раней у Летуве (успомніце расейскія танкі ў Вільні), у Малдове (канфлікт у Прыднястроўі, у якім прымала ўдзел 14-я расейская армія), у Грузіі (паставкі зброі абодвум бакам у грузіна-абхазскім канфлікце).

Тады гэты нумар не прайшоў, бо народы пазначаных вышэй і іншых рэспублік цьвёрда выступілі на абарону свабоды і незалежнасьці. Ды і сіл стрымаць развал камуністычнай імперыі на ўсіх франтах тады не было. Аднак пэўныя палітычныя колы ў Маскве да гэтага часу не зьмірыліся з тым, што Расея ўжо ня царская імперыя і ня СССР. Імперскія настроі, прывітыя расейскаму грамадзтву за сотні гадоў, правяць баль у Крамлі.

З цяжкасьцю зьмірыўшыся з аднаўленьнем незалежнасьці ў краінах Балтыі, Расея ўсімі сродкамі зацягвае ў сьферу, а, дакладней, сетку, свайго ўплыву астатніх "братоў і сёстраў" па былому Саюзу. Таджыкістану дапамагае ахоўваць мяжу з Аўганістанам, Украіну шантажуе пастаўкамі газу, штучнымі праблемамі Крыму і Чарнаморскага флоту, з беларусамі і казахамі гуляе ў эканамічную інтэграцыю. На фоне гэтых кансалідуючых намаганьняў імкненьне чачэнскага народу рэалізаваць сваё права на самавызначэньне стала для Масквы, як костка ў горле.

Для ліквідацыі гэтай небясьпечнай, з імперскага пункту гледжаньня, зьявы спачатку быў прыменены, выпрабаваны яшчэ ў часы Рымскай імперыі, прынцып: "падзяляй і ўладар". Але справакаваць, а за тым "потушить миротворческими силами" грамадзянскую вайну ў Чачні не ўдалося. І тады ў ход пайшлі танкі.

На што спадзяваліся расейскія палітыкі і генералы, кідаючы сваіх салдат у полымя вайны? На тое, што першым жа стрэлам запалохаюць усіх "сепаратистов" і прымусяць іх скласьці зброю і пакінуць "незаконные вооруженные формирования" законна абранага народам прэзідэнта Дудаева? На тое, што дзеці "боевиков" даруюць ім сьмерць сваіх бацькоў, загінуўшых за сваю Радзіму? На тое, што расейскія войскі сустрэнуць падтрымку мясцовых "русскоязычных"?

Але ж як яны маглі падтрымаць акупантаў, калі тыя дашчэнту зьнішчылі нават тыя вёскі, у якіх жылі адныя рускія? Калі армія "святой Руси", у якой без асьвячэньня не абыходзіцца нават адкрыцьцё прыбіральняў, нават на Нараджэньне Хрыстова бамбіла хаты мірных жыхароў, у тым ліку і сваіх аднаверцаў?

"Они хуже фашистов! Пускай все увидят, что они здесь творят!" - гэтыя словы рускай кабеты з Грознага даюць адпаведную характарыстыку дзеяньням расейскіх вайскоўцаў, якія сьвядома вядуць вынішчэньне ўсяго баяздольнага насельніцтва Чачні, бо зразумелі, што толькі так здолеюць перамагчы.

А між тым, у гэтай сітуацыі мажлівы толькі мірны варыянт вырашэньня канфлікту - шляхам вываду расейскіх войскаў з тэрыторыі рэспублікі. У адваротным выпадку крызіс будзе разгарацца. І ня толькі ў Чачні, але і ў Расеі, дзе з кожнай новай ахвярай будзе абвастрацца палітычная сітуацыя. Аднак спадзявацца на мірны зыход вайны няма падставаў.

На фоне такіх падзей непрыхаванае імкненьне да адраджэньня мерцьвяка - "братского Союза" з боку прэзідэнта Беларусі і яго прысьпешнікаў ставіць нашае грамадзтва перад прамой пагрозай уцягваньня ў вайну. Спадзявацца на тое, што ў адноўленым СССР беларускія хлопцы будуць, як і цяпер, служыць толькі ў межах Беларусі, па меншай меры наіўна. Межамі Беларусі будуць межы Расеі. А яны зараз і ў Таджыкістане, і на Каўказе, дзе ліецца і будзе ліцца кроў. Прынамсі, да тых часоў пакуль Расея не супакоіць свае імперскія амбіцыі.

Гісторыя пераканаўча паказала, што ў любой імперыі час ад часу запальваюцца "гарачыя кропкі" паўстаньняў падняволеных народаў. Да той пары, пакуль "праблемы" (народы) не ліквідуюцца. Ці не разбурэацца сама імперыя. І той, і другі варыянт суправаджаецца крывёй ні ў чым не вінаватых людзей.

Дык ці варта, "товарищ" Прэзідэнт, зноў выводзіць наш народ на гэты шлях? Ці настальгія па цынкавых трунах пераважыла ў Вашай галаве здаровы сэнс?

**Вітаўт РУДНІК**

## МІСІЯ МІЖНАРОДНАГА ВАЛЮТНАГА ФОНДУ Ў МЕНСКУ

Як паведамілі карэспандэнту ў прадстаўніцтве Міжнароднага валютнага фонду ў Беларусі, 2-га чэрвеня ў Менск прыехаў кіраўнік місіі МВФ Анры Лоры. Падчас работы місіі будзе вывучана эканамічная сітуацыя на Беларусі, а таксама будуць дадзены рэкамендацыі структурам выканаўчай улады аб мэтазгоднасьці праводзімай эканамічнай палітыкі. 5-га чэрвеня спадар Лоры меў рабочую сустрэчу з прэм'ер-міністрам Беларусі М. Чыгірам.

У ходзе візіту чарговы раз будзе разгледжвацца пытаньне аб прадастаўленьні Беларусі крэдыту "stand-by" (раней Беларусі было адмоўлена ў прадастаўленьні крэдыту). 16-га чэрвеня місія плануе закончыць работу ў Менску.

**СІМ**

## ГЭТА ТРЭБА НЯ МЁРТВЫМ...

Дзеля таго, каб адной магілай невядомага жаўнера стала меней, адправіўся ў нямецкі горад Расток С.І.Маляўка з вёскі Боцкавічы Наваградзкага раёна. Спадара Маляўку ў гэтым падарожжы суправаджаюць адказныя работнікі з амбасады ЗША ў Маскве.

Сьцяпан Іванавіч падчас вайны быў гастарбайтэрам у нямецкага бавэра. Разам з ім на гаспадарцы працавалі і беларусы, і палонны амерыканскі лётчык. Здарылася так, што лётчык і яшчэ адзін беларус загінулі, і пахаваны разам у адной магіле, месца знаходжаньня якой вядома толькі Сьцяпану Іванавічу.

**С.Б.**

## «ЛЕХ ВАЛЕНСА ЗЬНЯВАЖЫЎ ПОЛЬШЧУ»

**Менавіта пад такой назвай выйшла заява Дэмакратычнага Саюзу Расеі. Пасьля мужнай адмовы Леха Валенсы паехаць у Маскву на сьвята Перамогі, ён прыняў ганебнае для ўсёй Польшчы рашэньне адмовіць чачэнскім патрыётам у магчымасьці мець у Кракаве радыёстанцыю "Свабодны Каўказ".**

На думку сяброў Дэмакратычнага Саюза Расеі, "няшчырыя змовы Польшчы з расейскім імперыялізмам не нададуць нацыянальнай бясьпецы гэтай краіны ўпэўненасьці.

Прыйдзе час, і расейскія танкі перасякуць мяжу Польшчы і, у якіх ужо раз, зруйнуюць Варшаву, як зрабілі гэта яны ў Грозным," - адзначаецца ў заяве.

**(Э.-Х.)**

## УКРАІНА

### КІЕЎ

**"Народны Рух Украіны лічыць, што ня ўсе магчымасьці для пераадоленьня крызісу ўлады на Украіне выкарыстаны і, што плебісцыт з яго магчымымі негатыўнымі наступствамі неабавязковы".**

Менавіта такую заяву распаўсюдзіла прэс-служба Народнага Руху Украіны ў сувязі з Указам прэзідэнта гэтай дзяржавы Леаніда Кучмы аб правядзеньні 28 чэрвеня апытаньня насельніцтва Украіны аб даверы прэзідэнту і Вярхоўнаму Савету Украіны. Рух лічыць, што апытаньне можа прывесьці да дэстабілізацыі палітычнага становішча на Украіне. "Зацягваньне Украіны ў новы выбарчы працэс да прыняцьця Канстытуцыі і выбарчага закону можа спрыяць узьнікненьню безуладдзя ў дзяржаве", - падкрэсьліваюць аўтары заявы.

### ХАРКАЎ

**Дагэтуль, толькі палова з пяцісот тысяч крымскіх татар пражывае ў Крыме, згадваецца ў справаздачным дакуманце прысьвечаным становішчу крымскіх татар. Дакумант склаў каардынатар Украінска-Амерыканскага бюро абароны правоў чалавека Генрых Алтупян.**

Згодна прыведзеным у справаздачы дадзенным, каля 65 тысяч крымскіх татар не зьяўляюцца грамадзянамі Украіны. Каля 50% крымскіх татар - беспрацоўныя. У месцах кампактнага пражываньня татар няма ніводнага міліцыянта, што валодае татарскай мовай. У пракуратуры Крыма працуе ўсяго сем крымскіх татар. У ворганах міліцыі служыць усяго 50 прадстаўнікоў татарскай нацыянальнасьці. Спадар Алтупян лічыць, што "Украіна павінна прыняць Закон аб статусе крымска-татарскага народа, як нацыі на Украіне".

***

**Блок лістовак з вершамі жонкі прэзідэнта Чачні Джахара Дудаева - Алы Дудаевай - распаўсюджаны ў Харкаве.**

На думку прадстаўнікоў харкаўскай праваабарончай групы, спадарыні Дудаевай можа належаць толькі адзін верш. Астатнія вершы напісаны ананімным аўтарам з мэтай прыцягнуць увагу да сям'і Дудаева, якая зараз знаходзіцца на Украіне.

**(Э.-Х.)**

## РАСЕЯ

### МАСКВА

**Відэакасету з запісам, што сьведчыць аб парушэньнях правоў чалавека расейскімі ўладнымі структурамі ў Чачні, адабралі ў Валеры Навадворскай і Канстанціна Баравога супрацоўнікі расейскай ахоўкі.**

Пра гэты факт паведамілі прадстаўнікі Дэмакратычнага Саюза Расеі (ДСР). Трэцяга чэрвеня лідар "ДСР" В.Навадворская і старшыня Партыі экалагічнай свабоды К.Баравы вылецелі ў Люксембург, каб выступіць перад камісіяй Эўрапарламанту. Па словах прадстаўнікоў "ДСР", прама ў аэрапорце супрацоўнікі сьпецслужбы зрабілі вобыск багажу Навадворскай і Баравога і забралі відэакасету.

У сувязі з гэтым чацьвёртага чэрвеня цэнтральны каардынацыйны савет "ДСР" прыняў заяву, у якой выказаны рашучы пратэст падобным варварскім дзеяньням уладных. "Краіна, што скарыстоўвае авіяцыю, гарматы, танкі супраць дзяцей, жанчын, старых, і ў якой ніхто не абароненны ад беззаконьня, не павінна лічыць сябе дэмакратычнай" - гаворыцца ў заяве. Таксама аўтары заявы "выказваюць непакой за партыі дэмакратычных краін Захаду, лідары якіх фактычна выказваюць падтрымку фашысцкай расправе з чачэнскім народам".

***

**Праект закона "Аб забароне дзейнасьці экстрэмісцкіх грамадзкіх аб'яднаньняў" прыняла 24 траўня Маскоўская гарадзкая дума.**

За яго прыняцьце прагаласавалі 21 дэпутат, супраць - ніхто. Згодна закону, да ліку экстрэмісцкіх аб'яднаньняў адносіцца тыя арганізацыі і сродкі масавай інфармацыі "публічна заклікаючыя да усталяваньня ў Расіі дыктатуры, да гвалтоўнага зьнішчэньня канстытуцыйнага ладу, якія ствараюць зброиныя адзінкі, вядуць прапаганду вайны, выкарыстоўваюць сімволіку нацыянал-сацыялізму і фашызму, у тым ліку свастыку ў любых яе формах".

Дэпутаты прынялі таксама праект закона аб унясеньні дапаўненьняў у крымінальны кодэкс Расеі. Кодэкс прапануецца папоўніць артыкулам 72-1 "Арганізацыя экстрэмісцка-грамадзкага аб'яднаньня". Артыкул прадугледжвае пазбаўленьне віноватых волі тэрмінам да пяці год, альбо штраф памерам у дваццаць мінімальных зарплат.

### УЛАДЗІВАСТОК

**Расьсьледаваньне фактаў незаконнага выкарыстаньня замежнай працоўнай сілы на расейскіх прадпрыемствах распачата пракуратурай Прыморскага краю.**

Па дадзеных пракуратуры, эмігрантаў у асноўным выкарыстоўваюць на лесапавале. Так у леспрамгасе Уладзівастока ўжо больш года працуюць каля ста кабет з Кітаю. Менавіта рабочая сіла эмігрантаў - самая танная і бездакназная. Кітайскія жанчыны за сваю працу непатрабавалі грошай, а толькі прадукты харчаваньня.

**(Э.-Х.)**

# АДГАЛОСКІ

**Раптоўная сьмерць паэта Андрэя ПЯТКЕВІЧА (13.06.1966 - 29.04.1995) выклікала шырокі рэзананс у літаратурных колах. Наша рэдакцыя атрымала шмат цікавых рукапісаў памерлага, водгукаў на публікацыю ў папярэднім нумары. Частку гэтых матэрыялаў мы прапануем вашай увазе.**

# САТАНІНСКІЯ ДНІ

### 1.

Калі пішаш пра таго, хто пайшоў, адразу ўяўляюцца могілкі, на якіх на пэўны час прызначана баляваньне ў гонар таго, хто пайшоў. Але ж я ніколі ня ўмеў танчыць на могілках ні глыбокадумных паланэзаў, ні сентыментальных мінуэтаў. Таму памяць пра Андрэя Пяткевіча ў мяне ціхая. Як шаргаценьне тых мяккіх аркушаў, сьпісаных ягонай сухаватай маленькаю рукою, магчыма, больш прывыклай да агародніцкіх шчыраваньняў, чым да "акадэмічнае" асадкі.

### 2.

**З лістоў і вершаў А.Пяткевіча:**

"Слоўнік Ластоўскага мне не патрэбны. Ты думаеш, што калі ўсе купяць слоўнік Ластоўскага ці выпішуць "ЛіМ", то адразу ж адбудзецца адраджэньне Беларусі?" 17.05.91 г.

* * *

*Ці мы былі, ці мы будзем - ўсё адно,*
*І па траве сузор'і не паедуць.*
*Вось тры рублі - ў сталоўцы паабедаць,*
*І паглядзець бясплатнае кіно,*
*Дзе п'юць падлеткі чорнае віно.*
*Віно - ня кроў, яго ня можна піць.*
*Напіцеся крыві ахвяр сустрэчных.*
*І ў сэксуальных позах недарэчных*
*Вучыся, моладзь, камунізм любіць.*
*Яно лягчэй, чым сеяць і касіць.*
23.05.91 г.

* * *

"Дарэчы, створаны фонд Андрэя Пяткевіча, заснавальнік Ю.Пацюпа. І калі мне трэба куды ехаць ( у Менск ці ў Горадню), то я грошы на паездку атрымліваю з гэтага фонду. Удзельнікі - мае сябры: Пацюпа, Дабравольская, Карневіч, Залоска, Гумянюк і інш..." 13.04.92 г.

* * *

"Не паверыш, у нас лісічкі па тысячу рэ за кг. Але я пакуль у лесе гэтых грыбоў сёлета не сустракаў". 18.07.92 г.

* * *

"Памятаю, як гасьцяваў у Менску ў Пацюпы, ён завалок мяне на выставу Рэрыха. А потым пытаўся: "Ну як, цікава?" "Нудота, - адказваў я. - Лепш сузіраць жывыя горы, чым іхнія адбіткі-вобразы".

"Творчасьць экзыстэнцыйнага накірунку для мяне - галоўнае. А яна й ніяк ня можа быць без змаганьня".

"Цяпер у нас жніво. Хаджу ў начную на зерняток. Хочацца мець лішніх пару тысячаў, якія ніколі лішнімі не бываюць". 28.07.92 г.

**З адказаў на анкету "Крыніцаў" ("ЧЗ"):**

1. Жыву сёньня працай. Як казаў адзін разумны чалавек: праца ніколі ня здрадзіць...

2. Быць сабой мне замінае грамадзтва і дзяржава. ("Разумнікаў" прашу ня блытаць гэтыя паняцьці з паняцьцямі "народ" і "краіна")...

3. Запаветная мара - падарожнічаць па сьвеце, зьезьдзіць на Усход, наведаць Тыбет, а таксама атрымаць Нобелеўскую прэмію па літаратуры.

* * *

"Калі б я меў свабодных тысячаў сорак, то наняў бы добрага адваката ды падаў бы ў суд на парламант, на тых, хто размаўляе там па-расейску і тым самым зьневажае маю нацыянальную годнасьць... 9.12.92 г.

"Згодна пашпартных дадзеных, у нашай краіне 70 адсоткаў беларусаў. Беларусаў фактычных, папяровых! А рэальных беларусаў, мяркую, каля 30-40 тысячаў. А сярод іх усяго каля тысячы беларусаў сьвядомых, а можа, і менш, мо' ўсяго пару сотняў і будзе..." 24.12.92 г.

"Андруша быў беларусам, хоць у сваім пашпарце (на месцы, дзе павінна была быць напісана нацыянальнасьць) меў прочырк..." (З ліста былой жонкі А.Пяткевіча Галіны Плаўскай ад 17.05.95 г.)

"Сумна жыць - змагайся! Я вось супраць хрысьціянства пачаў выступаць... Гісторыя са смакоўніцай - ахілесава пята хрысьціянства". 22.02.93 г.

* * *

"Пра ТВЛ. Я паразважаў і вырашыў быць літаратарам, вольным ад усіх вольных таварыстваў, разам узятых". 10.03.93 г.

* * *

"Яшчэ супернавіна. Я атрымаў ліст - не ўгадаеш ад каго! - ад самога міністра інфармацыі А.Бутэвіча... Справа ў тым, што я даслаў Бутэвічу ліст у сваім улюбёным жорсткім стылі..." 11.04.93 г.

( У "сваім улюбёным жорсткім стылі" Андрэй пісаў ня толькі міністру, але і М.Гарбачову, С.Шушкевічу, Б.Ельцыну. І атрымліваў адказы. Часьцей, праўда, ад "памочнікаў"... - І.С.)

* * *

*Сівы вечар, сіні вечар*
*Ля парога нехта енчыць.*
*Я яго ўпушчу ў хату -*
*Чым багаты, тым і рады.*

*Хай сядае на падлогу -*
*У мяне падлогі многа.*
*Пагаворым чынам-чын.*
*Потым трохі памаўчым.*

*Заўтра будуць іншы дзеі -*
*Ваўкалакі, цмокі, зьмеі*
*Папаўзуць кудысь пад схроны,*
*Нам пакінуўшы харомы.*

*А пакуль, мой добры вечар,*
*Пакаштуй, што ёсьць у печы,*
*Сала, дранка і гарбата.*
*Хто ж у гэтым вінаваты,*

*Што ў нашым ціхім Краі*
*Завяліся гадаў зграі.*
*Аж да самай дамавіны*
*Гнуцьмем тут на гадаў сьпіны.*

*Люд раблівы, безгалосы,*
*Ён ня возьме вілы-косы,*
*Захінецца лахманамі.*
*Мы ня з людам, люд ня з намі.*

*Сівы вечар, сіні вечар*
*Ля парога нехта енчыць.*
*Калі ласка, зайдзі ў зату,*
*Бо я зрынуў з вокнаў краты.*
13.11.93 г.

* * *

"Думкі круцяцца вакол выбараў. Хто ж пераможа? Дзень 23 чэрвеня - ня проста дзень выбараў першага прэзідэнта. 23 чэрвеня - дзень народзінаў альбо дзень сьмерці Беларусі. Выбары - гэта тэст на існасьць: ...ёсьць беларуская нацыя ці яе няма. Я й да гэтага часу не магу зразумець: беларусы - гэта нацыя ці задрыпаны рабскі этнас?.. Толькі Пазьняк!.. А Лукашэнка - гэта другі Жырыноўскі. Ён адразу ж забароніць сьцяг, герб, БНФ і БСДГ, у краіне пачнецца хаос і вайна". 23.05.94 г.

"Унутраная эміграцыя - самае лепшае становішча для мяне...- час дзеяньняў, справаў, творчасьці. Я рады і шчасьлівы, што адыйшоў-такі нарэшце ад выблядачнага люмпэн-грамадзтва і злачыннай дзяржавы". 28.07.94 г.

"Чым займаюся на эміграцыі? Сельскай гаспадаркай, зборам зёлкаў, народнай медыцынай, самаадукацыяй, пошукам мудрасьці, творчасьцю. Амаль скончыў пісаць "Парадаксальны раман", распачаў працу над філасофсім раманам "Бурыданаў асёл"..." 27.08.94 г.

"Так, Ігар, я поўнасьцю згодны, мы - апошнія вольныя людзі ў гэтай камунафашыстоўскай дзяржаве. І ў нас ёсьць неадымнае права - адыходзячы, моцна грукнуць дзьвярыма, каб аж шыбы павыляталі..." 28.10.94 г.

"Лукашэнка падняў-такі пеньсіі. Калі ў сьнежні я атрымаў 56 тыс. руб., то ў студзені - 98 тыс. ( прыблізна 8 даляраў). Пасьля канферэнцыі ў Наваполацку... тры дні прадаваў "Свабоду" у электрычках. Выгадная справа... зарабіў 10 даляраў. Пазнаёміўся з рэкетам, выдатныя хлопцы... Наводзяць парадак у гандлі і абараняюць гандляроў ад грабежнікаў... Давялося паставіць ім пляшку гарэлкі, што я зрабіў з вялікай ахвотай..." 20.01.95 г.

* * *

"Найперш пра Чачню... Я не магу ўявіць, як гэта можна падпарадкоўваць дзёбільным і злачынным загадам, трымаючы зброю ў руках... Разумныя войскі проста адмовіліся б ісьці на бойню. А так - трэба чым больш страляць, рэзаць, вешаць гэтых "бедненькіх бязвусых салдацікаў". Бо яны, падонкі, вінаватыя ў гэтай вайне, бяз іх анікія генералы вайну не развязалі б... Некалі пасадзяць у СССР дзесятак праваабаронцаў у турмы, а Захад ва ўсю бэсьціць савецкі рэжым. А цяпер ідзе генацыд чачэнскага народа, а Захад не прымае анiякіх радыкальных дзеяньняў. Народнасмуродны Фронт ня там пікеты ладзіць. Не каля расейскай амбасады трэ' стаяць, а каля амерыканскай ды нямецкай". 8.02.95.

* * *

**З апошняга ліста А.Пяткевіча:**

"Апошнім часам кінуўся ў камерцыю і эканаміку. Праводжу такія-сякія перамовы, хачу летам зарабіць трохі "зялёных". А магчымасьцяў шмат: пастаўляць зёлкі ў фітабары і камерцыйныя аптэкі, ...экалагічна чыстую гародніну і садавіну ў валютныя рэстараны, закупляць у насельніцтва ды прадаваць літоўцам лісіцы і чарніцы. Шмат цікавых праектаў...

Што да прэміі А.Пяткевіча "Дарункі зямлі" - ідэя геніяльная... Хацелася б яшчэ шмат пра што распавесьці, але час - абмежаваны". 26.02.95 г.

### 3.

Спачатку была думка: кожнай вынятцы даць свае кароткія каментары. Але потым прыйшло іншае: "Навошта?" Што Андрэй хацеў сказаць - ён сказаў. І я кладу на ягоную магілу адмысловы вянок: 3 літры мёду, 10 кг сала, 50 кг бульбы, мех зёлкаў, вянок цыбулі і часнаку, торбу сушаных грыбоў, торбу сушаных яблыкаў - тыя самыя дарункі зямлі, якія павінны былі скласьці Андрэеву літарацкую прэмію.

* * *

Адзін з вершаў А.Пяткевіча заканчваўся:

*Запыні на кані*
*Сатанінскія дні.*

Не запыніў. Спатыкнуўся конь. Сатанінскія дні - прыйшлі.

### 4.

Але час іх абмежаваны.

**Вянок склаў Ігар СІДАРУК,**
**м.Кобрынь.**
**23-26 траўня 1995 г.**

## ЮРАСЬ ПАЦЮПА

**Андрэю Пяткевічу**

Лятуць твае воблакі небам,
астральная цемра лясоў
лучае ў калючыя нетры
пяшчоту разьвеяных сноў.

Няма табе болей адхланьня,
і цудаў на сьвеце няма,
і вечныя нашы пытаньні
панюшчацца ў двойчы два.

Прыдуманым словам ня веру,
бо словы... ты ведаеш сам!..
Забыўшыся здраду паперы,
стараюся Слова ўпісаць.

Як белыя іскры з-пад колаў,
як сьнежны спадманлівы пыл.
Чаму ж, калі плачу - над словам,
а ўсё, што ня слова, пазбыў?

Бясконцыя белыя воблакі
уяўным памкненьнем ляжаць,
як вершы ў алоўкавым волаве,
а згаду іх нельга даўняць.

Я ведаю, словы зьбяруцца
і ўстануць сьцяной цішыні,
а некаму застануцца
паэта няўлоўныя дні.

**22.05.1995 г.**

## МІКОЛА КАСЬЦЮКЕВІЧ

**Андрэю Пяткевічу**

Пад колерам чырвонай цьвілі
Народ пакутуе ад думак,
Чым працаваць, калі інструмант
На дзяржаную прымасцілі.
І як пражыць бяз хлеба ўвосень,
Калі на герб пайшло калосьсе ?

**1991 ( да путчу)**

## АНДРЭЙ ПЯТКЕВІЧ

Вазьму я ў рукі зброю,
Бо час ужо прыйшоў,
Ня дамся я бяз бою,
Хоць колькі зб'ю галоў.

Я - Кінік! Кінік вольны,
Свабода - гэта я,
Я аб'яўляю войны
Падонкам і скатам.

Мяне не пераможа
Ні лёс, ні сьмерць, ні кат,
І дух, заўсёды вольны,
Працісьнецца між крат.

**31.12.1988.**

**ТБІЛІСІ**

І падалі кроплі дзіцячай крыві
З савецкай сапёрнай рыдлёўкі.
Ты зорку са сьцяга і герба здымі.
Навошта, навошта там зоркі?

Рыдлёўкі малюйце з крывавым лязом.
Вось свастыка вашай дзяржавы.
Вы нам несяце толькі сьмерць, толькі зло.
Вы іншай ня прагнеце славы.

Калі ўжо рыдлёўка ў савецкіх руках,
То зброі страшнейшай ня будзе.
І гінулі з жахам, адчай у вачах,
Нявінныя мірныя людзі.

**1989**

* * *

...сёмага лістапада.
На плошчы - сьцягі і робаты .
Сьвяткуюць савецкае сьвята
Дурні, за чырвонец задобраны.

Але ніхто ня бачыць -
Са сьцяга нявінная кроў
Льецца пад ногі сабакам
Кроў скатаваных сыноў.

Колькі людзей на плошчы!
Людзі, куды ж вы йдзяце?
Вам Ленін у вочы рагоча
На п'едэстале з касьцей.

Сьвята, імперскае сьвята -
Танкі на плошчы равуць.
У турмы, у лагер, за краты
Вядзе нас "октябрьский путь"

**Публікацыя Ю.ПАЦЮПЫ**

